*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 38 (1501) 23 ВЕРАСНЯ 2020 г.**

## Канферэнцыі Гарадзенскіх абласной і гарадской арганізацый ГА “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны”

20 верасня ў Гародні прайшлі канферэнцыі абласной і гарадской арганізацый Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Прайшлі адным паседжаннем. На канферэнцыі прысутнічалі прадстаўнікі Дзятлаўскага, Лідскага, Навагрудскага раёнаў, Скідзеля і Гародні.

Былі заслуханы справаздачы старшыняў гарадской рады арганізацыі Аляксея Пяткевіча, і абласной рады арганізацыі Віктара Парфененкі.

Таксама была заслухана і адобрана інфармацыя пра фінансавую дзейнасць суполак.

Выбары старшыняў гарадзенскіх гарадской і абласной радаў прайшлі на безальтэрнатыўнай аснове, без самавылучэнняў. Старшынём Гарадзенскай гарадской арганізацыі выбраны **Алесь Крой**, старшынём абласной структуры - **Віктар Парфененка**. Канферэнцыя прагаласавала за гэтых кіраўнікоў аднагалосна.

Выбрана Гарадзенская гарадская рада ТБМ :

Алесь Крой (старшыня),
Наталля Карповіч,
Яўген Дудкін,
Аляксей Пяткевіч,
Святлана Тарасава.

Рэвізійная камісія абрана ў складзе: Аксана Астроўская, Іна Соркіна, Аляксандар Місцюкевіч

Выбрана Гарадзенская абласная Рада ТБМ:

Віктар Парфененка (старшыня),
Сяргей Трафімчык (Ліда),
Зміцер Солтан (Навагрудак),
Валеры Петрыкевіч (Дзятлава),
Кацярына Галота,
Тацяна Савянкова (Скідзель),
Янка Трацяк,
Іван Буднік,
Алесь Крой.

Рэвізор - Вольга Івашына.

Канферэнцыя вылучыла двух дэлегатаў на 14 з’езд ТБМ у Менск ад гарадской арганізацыі: Святлану Тарасаву і Івана Будніка, а таксама двух дэлегатаў ад абласной арганізацыі: Сяргея Чыгрына і Віктара Парфененку.

Абласны сход прыняў зварот да грамадзян Беларусі, а таксама падрыхтаваў праект звароту да ўладных структураў і міжнародных арганізацый для з’езду.

У канферэнцыі браў удзел намеснік старшыні ТБМ Станіслаў Суднік.







***Наш кар.***

## Зварот да грамадзян Беларусі

Апошні час паказаў, што прага волі, захавання суверэнітэту сваёй краіны ў беларусаў ёсць. Нягледзячы на існы лінгвацыд, прага да нацыянальных сімвалаў, беларускай мовы прабівае сабе дарогу пры хвіліне свабоды. Многія беларусы пачалі разумець, што беларуская мова - гэта не толькі код нацыі, але і сродак, які вядзе да адметнага шляху ўласнай прыгожай будучыні народа. Сябры канфэрэнцыі абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы, што прайшла ў Гародні заклікаюць суайчыннікаў, якія праніклісся вышэйзгаданым, зрабіць наступны крок: размаўляйце па-беларуску, аддавайце сваіх дзетак у беларускія групы дзіцячых садкоў і ў беларускія класы школаў.

Студэнты! Вымагайце правядзенне лекцый ды іншых заняткаў па-беларуску.

Жыхары дамоў, гарадоў! Патрабуйце афармлення шыльдаў, вонкавай рэкламы, касавых чэкаў, цэннікаў, страхавых полісаў і гэтак далей па-беларуску. Надышла пара ўзгадаць, што вы - жыхары самабытнай Еўрапейскай краіны, з уласнай мовай, гісторыяй, зямлёй.

Прынята 20 -га верасня 2020 года ў Гародні.

## У Гародні з'явіўся помнік апекуну горада святому Губерту



Помнік усталявалі на вуліцы Савецкай. Праўда, урачыстага адкрыцця яшчэ не было.

Размовы аб з'яўленні такога помніка ў Гародні вяліся з 90-х гадоў мінулага стагоддзя, але увесь час нешта гэтаму замінала, і вось нарэшце ён ёсць.

Аўтар помніка - гарадзенскі скульптар Уладзімір Панцялееў. Святы Губерт замацаваны на гранітным пастаменце, а побач з ім - алень з крыжам на галаве.

Паводле легенды, святы Губерт, які жыў у VIII стагоддзі, быў каталіцкім святаром і заступнікам паляўнічых. Аднойчы падчас шпацыру ў лесе ён напаткаў аленя з залатым крыжам паміж рагамі. Алень святога Губерта ўпрыгожвае герб Гародні з 1540 года.

Што праўда, ні ў адным храме Гародні няма абраза святога Губерта. Але гэта не значыць, што абразоў святога Губерта няма на Гарадзеншчыне. Так, у Беліцы, у касцёле святога Юрыя размешчаны абраз з выявай святога Губерта з арбалетам у руках. Дарэчы, яго лічаць сваім нябесным заступнікам не толькі паляўнічыя і леснікі, але таксама спартсмены, гарбары, матэматыкі. Да яго звяртаюцца, просячы аб ацаленні лунатыкаў, хворых на эпілепсію.

***Паводле СМІ.***



# Помнікі нацыянальнага прыгожага пісьменства ў даследаваннях Івана Саверчанкі

Сёлета Нацыянальная літаратурная прэмія ў намінацыі "Літаратурная крытыка і літаратуразнаўства" была прысуджана Івану Савечанку за кнігу "Магія слова" ( Беларускія пісьменнікі XII-XVII стагоддзяў).

Доктар філалагічных навук, прафесар Іван Васільевіч Саверчанка - аўтар фундаментальных даследаванняў па філалогіі, гісторыі і філасофіі. Ён апублікаваў звыш 300 навуковых прац, з іх - 12 кніжных выданняў, стварыў цыкл гістарычных аповесцей, хронік, эсэ і нарысаў. Шэраг кніг Іван Саверчанка прысвяціў палітычным і культурным дзеячам ВКЛ XVI-XVII стагоддзяў: Астафею Валовічу, Льву Сапегу, Сымону Буднаму, Язэпу Руцкаму, Філону Кміту-Чарнобыльскаму. Літаратурна-мастацкія і гісторыка-дакументальныя творы вучонага-філолага і пісьменніка былі выдадзены асобнай кнігай "Улада пячаткі" (2016), а таксама ў перакладах на рускую мову - " Блеск кароны" (2015) і "Трон" (2019).




У новай кнізе "Магія слова", якая пабачыла свет ў канцы 2019 года ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" прадстаўлены творчыя партрэты найбольш яркіх майстроў слова Беларусі XII-XVII стагоддзяў, асветлены ўклад таражытных аўтараў у развіццё беларускай літаратуры, пашырэнне тэматычных і жанравых гарызонтаў нацыянальнага прыгожага пісьменства. У кнізе раскрываюцца мастацкія стратэгіі, творчы метад і ідэйныя пошукі пісьменнікаў-інтэлектуалаў часоў Готыкі, Рэнесансу і Барока. Зборнік артыкулаў адрасаваны шырокаму колу чытачоў, школьнікам, студэнтам і выкладчыкам.

- З запаветных часоў на неабсяжных прасторах Полацкай дзяржавы і Вялікага Княства Літоўскага шырока гучала жывая беларуская мова, - адзначае аўтар кнігі. - На ёй актыўна камунікавалі, стваралі казкі, легенды і паданні, спявалі мілагучныя песні. Майстры слова даўняга часу фіксавалі і занатоўвалі важнейшыя падзеі і здарэнні, распавядалі пра жыццё і ўчынкі князёў, пра войны і мірныя пагадненні. Літаральна ўсе аспекты грамадскага і асабістага жыцця знайшлі адлюстраванне ў старабеларускай літаратуры, што робіць яе неацэннай гістарычнай крыніцай і нязменным сродкам спасціжэння высокіх духоўна-інтэлектуальных памкненняў беларусаў у мінулыя часы.

У новым выданні важным з'яўляецца асвятленне ступені ўздзеяння пісьменнікаў-інтэлектуалаў на духоўнае і культурнае жыццё народа, на фарміраванне нацыянальных мастацкіх кодаў, удасканаленне літаратурнай мовы і ўмацаванне духоўна-культурнай ідэнтычнасці беларусаў.




Акрамя шырока вядомых асветнікаў, творцаў і паэтаў Кірылы Тураўскага, Міколы Гусоўскага, Сімяона Полацкага, хрысціянскіх мысліцеляў Кліма Смаляціча, Мялеція Сматрыцкага, Язэпа Руцкага чытач сустрэне на старонках кнігі аповед пра Яфрэма Чарнарыzца, Стэфана Збаражскага, Аўгусціна Ратундуса, Гальша Пельгрымоўскага, Сільвестра Косава і іншых.

Пісьменнікі-інтэлектуалы далёкіх стагоддзяў былі ўпэўненыя, што ўзаемапавага, давер і пашана - грунт здаровага грамадства, якое дазволіць людзям, незалежна ад сацыяльнага становішча, жыць сапраўдным духоўным жыццём, напоўненым радасцю і святлом.

*Падрыхтавала*
***Эла Дзвінская.***

**На фота www.nn.by**
прафесар Іван Саверчанка ў "Акадэмкнізе".

# Адкрыццё помніка Яну Баршчэўскаму

У горадзе Чуднаве Жытомірскай вобласці адкрылі помнік аднаму з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Яну Баршчэўскаму, які тут жыў і памёр.

Летась у красавіку на адным з мясцовых падворкаў знайшлі ягонае надмагілле.




Цырымонія была арганізаваная пад трыма дзяржаўнымі сцягамі - Беларусі, Украіны і Польшчы. Перад яе пачаткам прагучалі дзяржаўныя гімны трох краін.

- Сённяшні дзень увойдзе ў гісторыю й культурны каляндар трох еўрапейскіх краін. Помнік Яну Баршчэўскаму стане яшчэ адным аб'ектам, які зойме асаблівае месца на турыстычнай мапе грамады Чуднава і Жытомірскай вобласці, - сказаў выканавец абавязкаў мэра Чуднава Сяргей Касцякоў.

З ініцыятывай паставіць помнік Яну Баршчэўскаму выступіў фонд Марыі Магдалены Радзівіл, які ўзначальвае Аляксандар Сапега. Яго падтрымалі і мясцовыя ўлады.



Бюст выкананы з бронзы і ўсталяваны на гранітным пастаменце ў цэнтры горада. Побач з помнікам - надмагільная пліта, якую летась знайшла мясцовая шкалярка Алена Прыходчанка. Помнік пазначаны адмысловым QR-кодам, які вядзе на старонку пра Яна Баршчэўскага на сайце мясцовай улады.

У цырымоніі ўдзельнічалі прадстаўнікі польскай дыяспары, беларускага руху салідарнасьці "Разам", прадстаўнікі гарадской і абласной уладаў.

- Гэта сведчанне таго, што мы можам не толькі дамаўляцца, а і разам ажыццяўляць. Цяпер важна, каб сувязі пашыраліся. Магчыма, варта падумаць, каб арганізаваць супольную беларуска-украінска-польскую культурную або пісьменніцкую падзею, - сказала Алена Талстая, адна з лідараў руху салідарнасці "Разам".




*Медаль Яна Баршчэўскага*

Беларуския і польскія дыпламаты на адкрыццё помніка не прыехалі, хоць мясцовыя ўлады накіроўвалі ім адпаведныя запрашэнні. Як паведамілі Свабодзе прадстаўнікі мясцовай улады, дыпламаты адмовіліся ад удзелу праз эпідэмію каранавіруса.

Чуднаўская гарадская рада заснавала медаль Яна Баршчэўскага. Першымі гэтай адзнакай былі ўшанаваны Алена Прыходчанка, дзякуючы цікаўнасці якой было знойдзена надмагілле, кіраўнік фонду Марыі Магдалены Радзівіл Аляксандар Сапега, які ініцыяваў усталяванне помніка, ды іншыя.

Выканавец абавязкаў мэра Чуднава Сяргей Касцякоў не выключыў, што ў будучыні медаль Яна Баршчэўскага можа зрабіцца сталай мясцовай узнагародай за ўнёсак у сферы культуры і жыцця мясцовай грамады. Пакуль што медаль выкананы з бронзы абмежаваным накладам. Яго распрацаваў той жа скульптар, што стварыў і помнік, - харкаўскі майстар Уладзімір Райчанка.

***Паводле Радыё Свабода.***





# Алег Трусаў: *"Ціханоўская не любіць ні сімволіку, ні мову"*



*Алег Трусаў лічыць, што калі б перапіс праводзіўся сёння, за беларускую мову выказаліся б 70-80 працэнтаў. Пра гэта Алег Трусаў распавёў "Польскаму радыё".*

10 верасня былі апублікаваны частковыя вынікі перапісу насельніцтва 2019 года. На фоне пратэстных падзеяў вынікі маглі застацца паза ўвагай некаторых беларусаў. А яны для многіх могуць быць нечаканымі і прыемна суцяшальнымі.

Прайшоў амаль год з моманту, калі вёўся перапіс насельніцтва, а толькі зараз сталі вядомыя некаторыя вынікі. Цяпер мы можам сказаць з вялікай дакладнасцю, якая доля беларускай мовы ў Беларусі - у якасці роднай яе пазначылі 54 адсоткі беларусаў. Гэты вынік складае больш, чым 10 гадоў таму, калі беларуская мова была першай мовай 53,2% беларусаў.

Гэты вынік радуе і быў нечаканым - кажа сябар Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў:

*- Гэта павышэнне, а ўсе думалі, што будзе жахлівае паніжэнне, таму я вельмі рады. Улічваючы ў якой краіне мы жывём, як улады не любяць беларускую мову - для нас гэта добры знак. Аднак, думаю, каб перапіс быў сёння - было б 70-80%.*

Перад самім перапісам і падчас яго ў Беларусі ладзіліся акцыі, як, напрыклад, "Беларускамоўны, Беларускамоўная". Паводле меркавання Алега Трусава, яны маглі мець уплыў на канчатковы вынік і павышэнне папулярнасці беларускай мовы. У выніках перапісу ёсць, аднак, адзін фактар, які не радуе - дома па-беларуску размаўляе толькі 26% апытаных, 10 гадоў таму гэта лічба складала 30%

*- Гэтыя акцыя напэўна далі свой плён, але і рэзка зменшылася колькасць вясковага насельніцтва, і вясковых беларускамоўных школ стала менш. Зараз мы сталі гарадской нацыяй, а ў гарадах не размаўляюць па-беларуску, і так было спрадвеку.*

Папулярызацыя беларускай мовы мае месца падчас цяперашніх пратэстаў - лозунгі, плакаты і сімволіка - практычна ўсё ўтрымлівае ў сабе выразныя прыкметы беларускасці. На думку нашага суразмоўцы, распачаўся шлях да большай прысутнасці беларускай мовы, яна стала знаёмай усім, хто ходзіць на пратэсты і людзі ўсё больш цікавяцца сваёй роднай мовай.

*- Людзі з кожным днём самі прыходзяць - лозунгі ў асноўным беларускамоўныя. Самае галоўнае - тое, што на першы план выйшла сімволіка, а сімволіка аўтаматычна цягне за сабой нацыянальную мову. Таму калі зараз пераможа беларуская рэвалюцыя, колькасць беларускіх школ павялічыцца, без сумневаў.*

Нягледзячы на ўсе пазітывы, выразна кідаецца ў вочы факт, што лідарка грамадзянскага руху пратэсту - Святлана Ціханоўская - размаўляе і выступае на міжнароднай арэне па-руску. Як гэта можа ўплываць на моўную сітуацыю Беларусі пасля магчымых перамен? Алег Трусаў лічыць, што мова лідаркі не настолькі важная, наколькі свядомасць грамадства, а ў прысутнасці беларускамоўнага лідара ён не сумняваецца і называе прозвішча.

*- Ціханоўская не любіць ні сімволіку, ні мову. Яна не хацела падтрымліваць сімволіку. Казала, што цудоўна валодае беларускай, а на самай справе двух слоў па-беларуску звязаць не можа. Беларускамоўны лідар ёсць - гэта Павел Латушка. Калі ён стане прэзідэнтам, верне ўсё беларускае.*

З іншых апублікаваных вынікаў перапісу насельніцтва варта ўзгадаць, што ў Беларусі жыве на амаль 100 тысяч менш людзей, чым дзесяцігоддзем раней - аднак тых, хто дэкларуе беларускую нацыянальнасць, больш на 33 тысячы. Чарговы перапіс павінен прайсці ў 2029 годзе - перад папулярызатарамі беларускай мовы шмат працы, дзеля таго, каб у наступны раз можна было вяшчаць пра рашучую большасць беларускамоўных у краіне.

***www.polskieradio.pl.***

# Наш творца - Юрась Несцярэнка





У нашым слаўным горадзе Магілёве жыве цікавы чалавек і творца - гэта Юры Несцярэнка. Калі вам, дарагія магілёўцы, спатрэбіцца лекцыя, або цікавы папулярны экскурс пра гісторыю сучаснай музыкі, то лепшага "гіда" ў гэта тонкай сферы, чым Юрась Несцярэнка, вам не знайсці! Бо калісьці самому Народнаму паэту Нілу Гілевічу пан Несцярэнка распавядаў пра змест сваёй фанатэкі, калі яшчэ жыў у старажытных Бялынічах….

Юрась Несцярэнка - вядомы на Беларусі пісьменнік і спявак. Юрась шмат дзе выступае ў нашай краіне, у розных аўдыторыях і перад разнайстайнай публікай. Яму пашчасціла працаваць побач з такім выбітным беларускім пісьменнікам, як Людміла Рублеўская, на словы якой Юрась напісаў не адну песню.

Разам з вядомым расійскім спеваком, які мае беларускія карані, Андрэем Макарэвічам, некальні год таму меў месца сумесны праект па перакладзе творчасці вядомага музыкі (гл. "Анталогія перакладаў расейскай рок-музыкі", часопіс "Дзеяслоў", № 69), а пазней выкананні шэрагу песень, першай з якіх была кампазіцыя "Снег" (праспяваная Макарэвічам на беларускай мове). Акрамя таго Юрась з'яўляецца стваральнікам папулярных музычных гуртоў "White Night Blues" і "Nestary Band".




Нарадзіўся Юрась 26 чэрвеня 1965 года ў Быхаўскім раёне ў вёсцы Прыбор Магілёўскай вобласці. Навучаўся ў Менскім інстытуце культуры. Працуе ў розных жанрах: піша прозу, публіцыстыку і вершы, займаецца перакладамі. Перакладае з некалькіх моў - з польскай, англійскай, украінскай і рускай. Друкуецца ў розных выданнях. Займаецца краязнаўствам і вывучэннем Бялыніцкага краю. У Юрася ўжо выйшла некалькі кніг. Апошняя ў гэтым годзе пабачыла свет у выдавецтве "Каўчэг" і мае гучнае імя "Чароўныя назвы". Кніга прысвечана дзецям і змяшчае ў сабе загадкі і байкі, аповеды і казкі, вершы і песні, а таксама гульні. Яшчэ да выхаду гэтай кнігі Юрась з задавальненнем сустракаўся з маленькімі чытачамі і з радасцю дзяліўся сваёй творчасцю. Адна з такіх сустрэч адбылася напрыканцы 2019 года ў дзіцячай бібліятэцы № 9 горада Магілёва. У дзіцячай кнізе сабрана каля двухсот загадак і песень на самыя розныя тэмы: звяры і птушкі, дрэвы і расліны… Вось цікавы вершык пра пітона.

**Гаварыў адзін пітон**

Самазвал прывёз пясок.
Дзеці ўсе - адразу скок!
У грудок - сядзяць, глядзяць,
Два разы не трэба зваць.
Хто знайшоў сабе нару,
Хто пітон, хто кенгуру -
У хуткім часе так нямала
Зверанятаў побач стала.
Незаўважна дань праходзіць,
Вечар ціха надыходзіць,
Хутка ноч запаліць znічкі
Зверанятаў мамы клічуць.
Усіх знайшлі, прыйшлі дадому.
Дома дыялог вядомы -
Кажуць мамы: "Проста жах!
Па якіх такіх краях
Пралягаў дзіцячы шлях,
Што ў вушах і ў валасах,
На зубах і на плячах,
У красоўках і ў штанах
Уся пустыня Каракумы!
Саксаул, бархан і дзюны -
Нейкім чынам невядомым
Апынуліся ў нас дома!"
"Мама! Нават не ўяўляеш,
Колькі ты ўсяго не знаеш!
Пачакай, не лямантуй!
Не спяшайся, памяркуй:
Вось пітонам быў Антон -
Тры гадзіны поўзаў ён!
Пад уражаннем Танюша
Стала кобрай з капялюшам!
Кракадзілам быў Арцём -
Так з'явіўся вадаём!
Славік страусам назваўся,
Галавою ў пыл хаваўся!
Потым на агульны сход
Усе паўзлі ў падземны ход,
Раптам і свае хады
Пракапалі хто куды!.."
Самазвал прывёз пясок -
Беражыся, хто не ўцёк!
"Нас прываблівае ён!" -
Гаварыў адзін пітон…

А дасціпныя загадкі зацікаваць не толькі дзяцей, але і дарослых!

Толькі вы селі -
Уверх паляцелі,
назад прыляцелі -
Вас гайдаюць… *арэлі.*

З горкі - звечару і зранку -
Над ільдом ляцім на… *санках.*

Сам наперад! Сам назад!
Сам катае… *самакат.*

Кніга ўжо паступіла ў продаж. І калі вы хочаце зрабіць добры падарунак для сваіх дзяцей, то варта набыць гэты з густам аздоблены мастацкі твор. Дарэчы, дзіцячая студыя пры Магілёўскім Палацы культуры вобласці на вершы з кнігі "Чароўныя назвы" зрабіла мініяцюры: "Гаварыў адзін пітон" і "Чароўныя канікулы". Запрашайце, дарагія сябры, на сустрэчы і прэзентацыі, на канцэрты і размовы нашага Юрася Несцярэнку. Прыйдзе час і вы будзеце з гонарам казаць: "Я быў знаёмы з гэты выбітным дзеячом!!!"

***Алег Дзьячкоў.***
*Магілёў.*

# Шклоўская ратуша - галоўная славутасць горада

6 лістапада 1999 года ў жыцці шклаўчан адбылася вялікая і радасная падзея. У горадзе ўзамен старой школы была адкрыта новая арыгінальная пабудова. У адзіны ансамбль "упісаны" гістарычны архітэктурны помнік "Ратуша" і сучасная навучальная ўстанова. Зараз ратуша з'яўляецца самым наведваным месцам г. Шклова сярод турыстаў і гасцей горада. Перад сусветным святам Дня турыста (27 верасня) адбылася сустрэча з удзельнікам тых падзей па аднаўленні помніка Аляксандрам Грудзінам.

*- Аляксандр Пятровіч, што Вас асабіста звязвае з ратушай у Шклове?*

- Асабістым лёсам мне было наканавана атрымаць агульную сярэднюю адукацыю ў школе № 3 горада Шклова. Школьны будынак быў двухпавярховы, цагляны і атынкаваны, пабудаваны яшчэ напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны і здаваўся вельмі вялікім і, безумоўна, непарушным. У пачатку 60-х гадоў 20 стагоддзя гэта была адзіная двухпавярховая школа ў горадзе і самая вялікая па колькасці вучняў. У тыя часы школа выконвала ролю своеасаблівага цэнтра ўсяго дзіцячага жыцця і была месцам не толькі вучобы, а і шматлікіх гульняў і забаў. Кожны дзень, знаходзячыся ў школьным двары, погляд міжвольна сустракаўся з паўразбураным будынкам з вежай, які знаходзіўся побач і меў мясцовую назву "каланча". Унутраныя пакоі са скляпеннямі, высокая вежа і цагляная муроўка падзямелляў заўсёды вабілі і прыцягвалі. Будынак у асноўным быў нічыйны, таму была магчымасць вольна наведваць яго і па-свойму вывучаць. У дзіцячай свядомасці мроіліся неверагодныя падзеі, якія нібыта тут павінны былі адбывацца ў мінулым. Сярод бітай цэглы і смецця вельмі хацелася "нешта" знайсці і даведацца аб якой-небудзь цікавай падзеі.

*- Але гэта дзіцячыя ўражанні, а што было ў дарослым жыцці?*

- Прайшоў пэўны час. Скончыўшы вышэйшую навучальную ўстанову, я зноў вярнуўся ў родны Шклоў. Мясцовая раённая газета "Ударны фронт" у тыя часы шмат увагі ўдзяляла гісторыі Шклоўшчыны, друкуючы матэрыялы Міхаіла Ільюшэнкі, Івана Кулікава, Івана Масеева і іншых аўтараў. Пазнаёміўшыся бліжэй з гэтымі цікавымі людзьмі, я таксама захапіўся краязнаўствам і паступова далучыўся да гэтай цікавай дзейнасці.

Адным з галоўных аб'ектаў даследчыцкай працы, безумоўна, становіцца "каланча". Вывучаючы разнастайную літаратуру, я даведаўся, што знаёмае з дзяцінства паўразбуранае збудаванне з вежай нішто іншае, як помнік архітэктуры, былы будынак гарадской ратушы, пабудаваны яшчэ ў 18 стагоддзі.

Адшукваючы новыя звесткі пра будынкі гарадскіх ратуш, я спазнаў, што на Беларусі 16-18 стагоддзі характарызуюцца росквітам гарадоў, насельніцтва якіх імкнулася да своеасаблівай вольнасці і самабытнасці. Адпаведных мэт жыхары тагачаснага горада маглі дасягнуць праз атрыманне Магдэбургскага права. Уражвала, што правінцыяльны невялікі горад - і раптам збудаванне, якое мае найцікавейшую гістарычную і культурную каштоўнасць. Унутраная свядомасць напачатку напоўнілася своеасаблівай асалодай, а потым і пачуццём гонару за свой родны кут. Гонар мясцовага жыхара цешыўся і тым, што падобных помнікаў на Беларусі засталіся адзінкі.

*- Надышоў перабудовачны час. Якія падзеі адбываліся ў Шклове ў дачыненні да ратушы?*

- Трэба сказаць, што мясцовая каштоўнасць з гістарынага пункту погляду знаходзілася ў занядбаным стане. Першы паверх і невялікую заходнюю частку былых гандлёвых радоў займалі пажарнікі, потым у гэтых памяшканнях гаспадарылі прадпрыемства Гаргаз і школа № 3. Але тое, што будынак яшчэ некаму быў патрэбны, захавала яго ад канчатковага разбурэння. А сярод неабыякавых людзей яшчэ на пачатку 1980-х гадоў узнікае і пачынае лунаць ідэя адраджэння помніка, якая ўсё мацней бударажыць і мяне асабіста. Добра памятаю сваё выступленне на III раённай справаздачна-выбарчай канферэнцыі Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры ў верасні 1981 года. Крыху блытана і з хваляваннем я выказаў заклапочанасць аб гаротным стане будынка ратушы і заклікаў дэлегатаў прыняць неадкладныя меры па захаванні помніка.

У тыя часы вялікі грамадскі рэзананс мела друкаванае слова. Артыкулы пра ратушу ў Шклове рэгулярна пачынаюць з'яўляцца ў раённай і абласной газетах, а 14 ліпеня 1982 года мой невялікі артыкул пад назвай "Возродится ли красота?" друкуе газета "Знамя юности".

Падтрымка мясцовай заклапочанасці рэспубліканскім выданнем надае ідэі аднаўлення помніка дадатковы станоўчы штуршок. Паведамленні ў друку не спыняюцца. Вядомасць Шклоўскай ратушы ўзрастае як і пашыраецца кола саміх аўтараў. У друку выступаюць Сяргей Пікас, Іван Кулікоў і іншыя. Усяго, пачынаючы з 1981 года, пра шклоўскую славутасць распавядаецца ў 37 артыкулах і паведамленнях. Адначасова, каб зрушыць справу, робіцца некалькі дадатковых захадаў. Група найбольш актыўных гараджан накіроўвае пісьмы ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета і Савет Міністраў БССР з просьбай аказаць падтрымку і дапамогу ў вырашэнні пытання рэстаўрацыі помніка ў Шклове. Неўзабаве прыйшоў адказ ад Старшыні Савета Міністраў Вячаслава Кебіча, у якім паведамлялася, што пісьмо прынята і ўзята на кантроль.

*- Але гэта была пазіцыя краязнаўцаў-адзіночак. Ці рэагавала на падзеі вакол ратушы нейкім чынам грамадскасць?*

- На VI раённай канферэнцыі таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, якая адбылася ў сакавіку 1986 года, дэлегаты прынялі зварот да насельніцтва горада і раёна з мэтай збору добраахвотных грашовых сродкаў на рэстаўрацыю ратушы на спецыяльна адкрыты банкаўскі рахунак. Да снежня адпаведнага года грашовыя сродкі паступілі ад супрацоўнікаў райкама КПБ - 270 рублёў, міжгаспадарчага вучэбнага камбіната і райаграпрамтэхнікі - па 100 рублёў, прэзідыума раённага аддзялення Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры - 60 рублёў, фабрыкі "Спартак" і аддзела народнай адукацыі адпаведна - 46 і 30 рублёў, дзіцячых садоў №№ 1, 2, 4 - адпаведна 14 рублёў, 26 рублёў, 17 рублёў. Сярод асобных грамадзян найбольшую суму ўнёс святар Спаса-Прэабражэнскай царквы айцец Валянцін Цвікевіч - 50 рублёў

*- А якія канкрэтныя дзеянні разгарнулісь каля будынку ратушы?*

- Першыя зрухі непасрэдна на помніку пачынаюцца ў 1988 годзе. Упершыню за пасляваенны перыяд на будынку з'яўляюцца рабочыя і над збудаваннем з'яўляецца часовы дах. Праз два гады пачынаецца ачышчэнне падзямелляў ад смецця, якое назапашвалася тут некалькі дзесяцігоддзяў. Першапачаткова на будынку працуе студэнцкі атрад "Брама" з Белдзяржуніверсітэта, а 5 жніўня 1990 года па ініцыятыве створанага ў Шклове грамадска-палітычнага клуба быў праведзены працоўны нядзельнік. Разам з аўтарам на нядзельніку працавалі Ўладзімір Снегаў, Аляксандр Шчарбак, Іван Кірыленка, Барыс Стральцоў, Сяргей Старасцін і некаторыя іншыя гараджане. Разам з усімі рупіўся на нядзельніку тагачасны дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, дырэктар саўгаса "Гарадзец" Аляксандр Лукашэнка. Прыйшоў на нядзельнік падтрымаць працоўных і Іван Віктаравіч Кулікаў, якому на той момант ужо было амаль 80 гадоў.



Дзякуючы агульным намаганням і сапраўднаму энтузіязму ўдалося выканаць шэраг падрыхтоўчых работ да пачатку рэстаўрацыі помніка. Здавалася, што лёс ратушы будзе хутка вырашаны: на будынку з'явіліся рабочыя, аб'ект быў абнесены агароджай, зроблены падмурак, пачалі кладку сцен гандлёвых радоў. Аднак у кастрычніку 1993 года работы прыпыніліся. Верагодней за ўсё, па прычыне адсутнасці адпаведных фінансавых сродкаў.

*- Але ж зараз мы бачым ратушу, як вельмі прывабнае збудаванне.*

- Ішоў час. Пра Шклоўскую ратушу нібыта забылі. Успомнілі, калі шукалі пляцоўку пад будаўніцтва новай школы - менавіта тады і ўзнікла думка спалучыць будаўніцтва школы з рэстаўрацыяй будынка ратушы. З улікам аднаўлення архітэктурнага помніка і быў распрацаваны праект новай установы адукацыі.

Будаўніцтва пачалося ў 1998 годзе. На навабудоўлі гаспадарылі будаўнікі трэста № 18 горада Оршы. Старшы прараб Анатоль Ліпінскі ўспамінаў, што за 26 гадоў працы на будаўнічых пляцоўках такі складаны аб'ект у яго жыцці першы.

У другой палове траўня 1999 года на будынку ратушы была выканана адна з самых адказных аперацый - пад'ём і ўстаноўка на вежу ратушы купалападобнага даху, на шпілі якога быў размешчаны флюгер. Выява флюгера адлюстроўвае герб Шклова з лічбамі 1762 год. Герб і дата пацвярджае Магдэбургскае права горада і надае яму адпаведны статус.

*- Якую ролю ў жыцці горада зараз адыгрывае ратуша?*

- Як некалі і марылася, непасрэдна ў будынку былой ратушы быў створаны і працуе школьны гістарычна-краязнаўчы музей. Статус некалі роднай школы ўзвысіўся да гарадской гімназіі. Ратуша стала прываблівым аб'ектам турызму, дарэчы, абавязкова яе наведваюць ўсе вучні не толькі Шклоўскага, але і суседніх раёнаў вобласці. Усё гэта вельмі радуе і цешыць думкі. Шлях, які прайшоў будынак, ад паўразбуранай "каланчы" да прыгожага архітэктурнага ансамбля, натхняўся самымі рознымі людзьмі. Непасрэдна, або ўскосна, яны рупіліся над адраджэннем гэтага цудоўнага помніка. Многія з іх ужо адышлі ў іншы свет. Але галоўнае, што справы не былі дарэмныя А ў нацыянальнай гістарычна-культурнай спадчыне Беларусі захоўваецца найцікавейшы аб'ект, які па-ранейшаму надае годнасць нашаму народу.

*- І апошняе пытанне. Як на Ваш погляд, ці выкарыстоўваецца галоўны гістарычна-архітэктурны брэнд Шклова ў турыстычным плане на поўную магчымасць?*

- Лічу, што ў гэтым накірунку ўладам і грамадскасці неабходна больш працаваць, і найцікавейшы помнік будзе прыносіць нашаму гораду дадатковыя дывідэнты як ў турыстычным, так і ў гістарычна-выхаваўчым накірунку. У свой час грамадзянская ініцыятыва "Шклоўскі магістрат", якая створана ў нашым горадзе, прапанавала наступныя накірункі дадатковага выкарыстання славутага шклоўскага брэнда:

1. З мэтай вывучэння існых напрацовак у выкарыстанні будынкаў былых гарадскіх ратуш стварыць працоўную групу, якая павінна збіраць адпаведныя звесткі як на Беларусі, так і ў суседніх дзяржавах з адначасовай гістарычнай спадчынай. Набытая інфармацыя павінна перыядычна абмяркоўвацца і найбольш карысныя і цікавыя напрацоўкі павінны выкарыстоўвацца ў Шклове.

2. Надаць адной з вуліц горада назву "Магдэбургская".

3. Злучыць існы будынак ратушы з найбольш яскравай гістарычнай спадчынай Шклова - славутым шляхетным вучылішчам Сямёна Зорыча, або, больш дакладна, стварыць на базе існай у Шклове гімназіі кадэтскае вучылішча (або філіял). У адукацыйна-выхаваўчым накірунку Шклова і ўвогуле Беларусі Шклоўскае шляхетнае вучылішча, створанае ў 1778 годзе, мае найцікавейшую гістарычную спадчыну.

4. Прапанаваць турыстычным арганізацыям стварыць адмысловы маршрут у Шклоў з наведваннем будынка ратушы.

5. У сучасны момант музей гімназіі, які находзіцца непасрэдна ў будынку ратушы, мае абмежаваную даступнасць. Неабходна павысіць статус музея, да філіяла раённага гістарычна-краязнаўчага музея, што паспрыяе большаму наведванню турыстамі будынка ратушы.

*- Дзякуй вялікі за цікавы росповед.*




**Петр Мігурскі,**
*намеснік старшыні Шклоўскай раённай арганізацыі ТБМ.*





## Агульны сход Наваградскай суполкі "Узвышша" Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

12 верасня 2020 года ў Наваградку, у краязнаўчым музеі адбыўся сход Наваградскай суполкі ТБМ "Узвышша". Аднагалосна быў пераабраны старшыня суполкі **Солтан Дзмітрый**, абрана рэвізор суполкі **Святлана Абдулаева**. Было выслухана паведамленне пра мерапрыемствы і дасягненні суполкі за апошнія 20 месяцаў.

Дэлегатам на Гарадзенскую абласную канферэнцыю ТБМ была абрана Святлана Абдулаева.

Дэлегатам на 14-ты з'езд ТБМ абраны Дзмітрый Солтан.

Сярод мерапрыемстваў, праведзеных арганізацыяй ТБМ "Узвышша":

- пачатак устаноўкі памятнага знака Яўхіму Карскаму ў вёсцы Ятра,
- удалы збор 5000 $ на помнік Міндоўгу ў Наваградку,
- абарона дзіцячай бібліятэкі, мастацкай і музычнай школы ў Наваградку,
- абарона гістарычна-культурнай спадчыны Навагрудка,
- праца над архітэктурным праектам навагрудскай ратушы і распрацоўка канцэпцыі адбудовы цэнтральнай плошчы Навагрудка,
- распрацоўка, раздрукоўка і шырокі распаўсюд у горадзе 1500 высокаякасных інфармацыйных беларускамоўных плакатаў супраць COVID-19,
- з ініцыятывы ТБМ ў Навагрудку з'явіліся шыльды з гістарычнымі назвамі вуліц горада,
- дапамога палітычна рэпрэсаваным у Навагрудку.

Галасавалі і слухалі даклад наступныя сябры ТБМ "Узвышша": Святлана Абдулаева, Сяргей Лаўрушчык, Ірына Дробыш-Лазарава, Галіна Кавальчук, Міхаіл Зізюк, Солтан Дзмітрый.

*Старшыня ТБМ "Узвышша"*
***Солтан Дзмітрый Мікалаевіч.***
*12.09.2020 г.*

## Светлай памяці УладзіміраАдамушкі

10 верасня не стала Уладзіміра Іванавіча Адамушкі, які нарадзіўся 1 студзеня 1952 г. у вёсцы Падгайна Карэліцкага раёна. Беларускі гісторык дзяржаўны дзеяч. Працаваў у камсамольскіх структурах... З 1991 года працаваў у сістэме Дзяржаўнага камітэта па архівам і справаводству. Меў працы па гісторыі палітычных рэпрэсій 1920-50 гадоў, вывазу цывільнага насельніцтва ў ваенныя гады на працы ў Германію. У 2020 гг. спадар Уладзімір атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі.




З 2002 па 2016 гады сп. Адамушка ўзначальваў Дзяржаўную архіўную службу. А яшчэ ў 1990 -ыя гады ён быў маім выкладчыкам. Ягоны спецкурс пра рэпрэсіі карыстаўся цікавасцю і попытам сярод ягоных студэнтаў.

Бывайце настаўнік з вялікай літары, Уладзімір Іванавіч Адамушка.

***Аляксей Шалахоўскі,***
***гісторык культуры.***

## Выстава, прысвечаная паэтам Гіёму Апалінэру і Карусю Каганцу

Выстава, прысвечаная паэтам Гіёму Апалінэру і Карусю Каганцу, адкрылася ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. Французскі і беларускі паэты паходзяць з роду Кастравіцкіх. Распавядае адзін з арганізатараў выставы - былы амбасадар Беларусі ў Вялікабрытаніі Уладзімір Шчасны:



- Чвэрць стагоддзя таму я ў Лондане пазнаёміўся з Ізлантай Пачарскай, яна аказалася ўнучатай пляменніцай Каруся Каганца. Мы пасябравалі, і яна нават прыехала ў Беларусь. Была ў гэтым музеі, пакінула вось гэты партрэт Каруся Каганца, які сама намалявала ў маладосці. І там я пазнаёміўся з маладым чалавекам - яе сынам, які праз дваццаць пяць гадоў, прыслаў мне вось гэтыя тры кніжкі, якія ён напісаў, прысвечаныя роду Кастравіцкіх.



Род паўстанцаў 1863 года Кастравіцкіх даў свету ў эміграцыі Гіёма Апалінэра - сусветна вядомага французскага паэта пачатку XX стагоддзя, і на Радзіме - Каруся Каганца, беларускага адраджэнца, паэта, мастака.

***Максім Каўняровіч,***
*Беларускае Радыё Рацыя,*
*Менск.*

*Навіны Германіі*

## Хайка Мас назваў беларускага лідара "галоўнай адказнай" асобай за сітуацыю, якая складваецца ў Беларусі




*Кіраўнік МЗС ФРГ Хайка Мас (фота з архіва)*

**Мас усклаў на Лукашэнку асноўную віну за сітуацыю ў Беларусі**

Кіраўнікі МЗС краін ЕС 21 верасня абмяркоўвалі ў Брусэлі магчымы санкцыйны спіс з чальцамі беларускага кіраўніцтва.

Еўрасаюз павінен праверыць магчымасць уключэння прэзідэнта Беларусі ў магчымы санкцыйны спіс ЕС. Пра гэта ў панядзелак, 21 верасня, заявіў кіраўнік МЗС ФРГ Хайка Мас (Heiko Maas) у Брусэлі, дзе праходзяць кансультацыі кіраўнікоў замежнапалітычных ведамстваў краін ЕС.

- Мы павінны канстатаваць, што за мінулыя тыдні сітуацыя не палепшылася. Гвалт, які Лукашэнка ўжывае адносна мірных дэманстрантаў, абсалютна непрымальна, - падкрэсліў Мас. - Мы павінны таксама закрануць пытанне, ці не варта ўвесці санкцыі ЕС у адносінах да Лукашэнкі, які з'яўляецца "галоўнай адказнай асобай" за тое, што адбываецца ў Беларусі, дадаў кіраўнік міністэрства замежных спраў Германіі.

**Кіраўнікі МЗС краін ЕС сустрэліся з Ціханоўскай**

Кіраўнікі МЗС 27 краін ЕС 21 верасня працавалі над узгадненнем санкцыйнага спісу афіцыйных асобаў Беларусі, адказных за магчымыя фальсіфікацыі на выбарах прэзідэнта гэтай краіны. Міністры падчас працоўнага сняданку ўжо абмеркавалі з экс-кандыдатам у прэзідэнты Беларусі Святланай Ціханоўскай сітуацыю з пратэстамі.

**Еўрапарламент настойвае на цвёрдых санкцыях**

Раней, 17 верасня, Еўрапарламент большасцю галасоў ухваліў рэзалюцыю, якая заклікае структуры Еўрапейскага Саюза ўвесці цвёрдыя санкцыі супраць прадстаўнікоў уладаў Рэспублікі Беларусь. Як перадаваў карэспандэнт DW у Брусэлі, рэзалюцыю на пленарным паседжанні падтрымалі 574 еўрадэпутаты, 37 прагаласавалі супраць, яшчэ 82 устрымаліся. У рэзалюцыі нагадваецца, што тэрмін прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі скончыцца 5 лістапада 2020 года.

**Пратэсты ў Беларусі супраць вынікаў прэзідэнцкіх выбараў**

Адразу пасля аб'яўлення папярэдніх вынікаў прэзідэнцкіх выбараў, якія адбыліся ў Беларусі 9 жніўня, у рэспубліцы пачаліся масавыя мірныя акцыі пратэсту. Выступленні грамадзян, якія адстойваюць свае галасы і пераканання я фальсіфікацыі вынікаў выбараў, перапыняюцца АМАП-ам і "спецназам". Пры гэтым у першыя дні пасля выбараў сілавікі дзейнічалі з беспрэцэндэнтнай жорсткасцю.

***Паводле DW.***

## Лепшая кніга прозы - 2020

Лепшай кнігай прозы на Днях беларускага пісьменства ў гэтым годзе стаў зборнік "Хвалі" славутага Уладзіміра Сцяпана . Кніга пабачыла свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура". Наклад літаратурна-мастацкага выдання 700 асобнікаў.




Асабіста мне спадабаліся аповесці і апавяданні "Курага", "Альбом", "Салдацкі гузік" , "Дом", "Маладая бульба", "Шчасце", "Сустрэча", "Афіцыянт", "Рыба залатая"...

У зборніку выявіліся галоўныя рысы творчасці Уладзіміра Сцяпана: майстэрства менавіта кароткай прозы, уменне перадаць у мінімуме слоў максімум сэнсу, "выяўленчасць", візуальнасць вобразаў, своеасаблівая кінематаграфічнасць...

Мастацкія тэксты ў зборніку рэалістычныя і праблемныя, засяроджаныя на актуальных для сённяшняга грамадства пытаннях, што выдатна спалучаецца з самім жанрам кароткай прозы. Раю нашым чытачам набыць выдатную кнігу.

***А. Шалахоўскі,*** *гісторык культуры.*

*Віктар Шніп*

# БЕЛАРУСКІ ПАНТЭОН

## *Балады крыві і любові. Частка II*

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

**БАЛАДА ЯНА ДАМЕЛЯ**
**(1780 - 30.08.1840)**



Грошай не маеш, і заўтра не будзе.
Тут ля карцінаў не тоўпяцца людзі.
Што ім карціны? Мазня і не болей.
Бедныя людзі не купяць ніколі
Тое, што іх не накорміць дзяцей.
Толькі ад гэтага не весялей.
Ну, а багатыя часта скупыя -
Хочуць бясплатна карціны мець тыя,
Дзе ты душу сваю з фарбай змяшаў.
Колькі карцін ты за “дзякуй” раздаў!
Зранку малюеш партрэт ладнай пані.
Не прыгажуні. Прыгожаю стане
Гэтая пані ў цябе на партрэце.
Зноўку на вуліцы змрочна і вецер.
Пані кідаеш. Ікону малюеш,
І ля іконы ў майстэрні начуеш.
Заўтра па Менску ты пойдзеш вясёлы,
Будуць ляцець над табою анёлы.
Толькі ніхто тут іх бачыць не будзе.
Будуць па справах сваіх ісці людзі.
Ты ж на Кальварыю пойдзеш, бо там
Зараз будуецца велічны Храм,
Храм, у якім ты свой знойдзеш спакой,
Храм, да якога ісці нам з табой,
Каб і карціны твае нам шукаць,
Мала знайшоўшы, не сумаваць.
*11.05.2020 г.*

**БАЛАДА МІХАІЛА БАБРОЎСКАГА**
**(8.11.1784 - 21.09.1848)**



Ты сасланы ў вёску Шарашова
Падалей ад Вільні, у якой
Ты сказаў, што гаспадарыць мова
Наша тут павінна, толькі з ёй
Будучыня будзе ў нас заўсёды.
Ты - святар, і да цябе ідуць
Людзі, каб пазбавіцца самоты,
Думкі грэшныя свае нясуць.
Вечарамі пішаш і на зоры,
На агні вандроўнікаў глядзіш,
Згадваеш айчынныя прасторы,
Вену, Прагу, Пецярбург, Парыж…
Кнігі, кветкі любіш, як і волю,
У дзяцінстве палюбіўшы іх.
Дуб стары ўздымае ў неба голле -
Моліцца з табою за жывых
І памерлых за сваю Айчыну,
Для якой і толькі трэба жыць
І не клясці пад нагамі гліну,
Мовай роднай з Богам гаварыць.
*1.05.2020 г.*

**БАЛАДА ТЭАДОРА НАРБУТА**
**(8.11.1784 - 14.11.1864)**



У родным краі лепшай крэпасці няма.
Ты ў ёй палёт сваёй фантазіі спатоліў.
І ты не ведаеш, што будзе тут турма
Для інсургентаў,
што захочуць светлай долі
Тутэйшаму народу, для якога ты
Цяпер будуеш у Бабруйску крэпасць гэту,
Каб бараніцца ад крывавае бяды.
Ты малады і маеш сотні добрых мэтаў.
Няспешна сонца па-над крэпасцю плыве,
Чырвонае ў лясах, як першы раз, знікае.
Выходзіш з крэпасці і крочыш па траве,
І цень твой за табою ледзве паспявае.
І пралятуць твае нясумныя гады,
І аддымяцца слёзна войны і паўстанні,
І толькі крэпасць застанецца назаўжды
Тут у зямлю ўрастаць
і не знікаць дазвання.
*3.05.2020 г.*

**БАЛАДА ЗАРЫЯНА ДАЛЕНГІ - ХАДАКОЎСКАГА**
**(24.12.1784 - 17.11.1825)**

Тваё багацце ўсё - у сундуку,
Але не золата, не срэбра там.
І сонца зноў асвечвае раку
І ты глядзіш на сонца, як на Храм,
Дзе душы продкаў моляцца за край,
Якім вандруеш і збіраеш ты



У хатах песні не пра вечны рай,
А пра людзей, пра вёскі, гарады.
З цябе смяюцца, кажуць: "Абібок!"
І грошай болей не даюць сябры.
Хацеў спаліць сундук, вакольны змрок,
Каб асвяціўся, як душа, знутры,
Але стрымаўся. Бог цябе стрымаў.
Глядзіш, нібы на вечнасць, на раку.
І для цябе багацця больш няма,
Чым з песнямі паперы ў сундуку.
*30.04.2020 г.*

**БАЛАДА ІГНАТА ХОДЗЬКІ**
**(29.09.1794 - 1.08.1861)**



Рыфмаплётам у Вільні цябе называлі.
Ты і сёння яшчэ, хоць стары, рыфмаплёт.
Ты дачку пахаваў, салаўі адспявалі,
І ў душы тваёй вецер скуголіць і лёд.
У Дзевятнях ужо больш не будзе бяседаў,
Дзе вясёлым ты быў, дзе казалі сябры
Пра любоў да Айчыны, да цёплага лета
І чыталі паэмы да позняй зары.
Ты ідзеш да дачкі, для яе "Гадавіну"
Напісаў і яна, як балюча сляза,
І яшчэ ты шкадуеш, што сам пра Айчыну
Тут на мове тутэйшай зусім не пісаў,
Як пісалі сябры, для якіх анічога
Не было за Айчыну сваю даражэй.
Ты да Храма ідзеш, прад табою дарога,
Як у рай, і няма больш дарогі прамей.
*18.04.2020 г.*

**БАЛАДА КАЯТАНА КАСОВІЧА**
**(2.05.1814 - 26.01.1883)**




Прысніўся Полацк, і табе не спіцца.
Глядзіш на дождж вясновы праз вакно.
І прад табой імперыі сталіца,
Як кніга прачытаная даўно
На мовах розных, на якіх умееш
Яшчэ з юнацтва тлумнага чытаць.
Ідзеш на кухню і гарбату грэеш,
І будзеш піць і сэрца апякаць,
Успомніўшы зямлі бацькоўскай песні.
Да кніг на службу пойдзеш, як заўжды,
І будзе дождж самотны хоць і весні,
І шмат яшчэ сплыве ў Няву вады
З тваіх сцяжын, што ў Полацку пачаты.
Працуеш з кнігай, пішаш кожны дзень,
І на душы ў цябе святло і свята,
Бо ўсё, што робіш - робіш для людзей.
*19.04.2020 г.*

**БАЛАДА МІХАІЛА ГРУШВІЦКАГА**
**(29.11.1828 - 5.03.1904)**



У Ракаве кірмаш і шмат народу
З ваколіцаў наехала, і ты
На ліры граеш, бы цвітуць сады,
І ля цябе людзей, як мух ля мёду.
І песня вольная твая ўзлятае,
Як бусел па-над Ракавам, ляціць,
І нельга гэту песню не любіць,
Што душы і хаціны асвятляе.
І ты шчаслівы, бо навокал свята.
Кірмаш віруе, як пчаліны рой.
І сонца ўжо страчаецца з расой,
Ды мала хто спяшаецца дахаты.
І будзеш ты ўсю ноч іграць натхнёна.
І зоры будуць над зямлёй маўчаць…
Начам і дням бясконца пралятаць
І салаўям спяваць, гарлаць варонам
На могілках, дзе сосны, як калоны,
Дзе помнік твой не згублены ў траве,
Дзе музыка твая ва ўсім жыве.
Яе не чуе той, хто не ўлюбёны
У ветлы край, дзе нарадзіўся ты,
Дзе час, каб жыць, заўсёды залаты.
*24.04.2020 г.*

**БАЛАДА ЯЗЭПА ЦІХІНСКАГА**
**(28.09.1842 - 1922 ?)**

Праз станцыю Талька ідуць цягнікі.
Не бачыш ты іх, але можаш яшчэ
Адрозніць па гуку праходзіць які
І што ён з сабою вязе-валачэ.
Ты сорак гадоў важкі слоўнік складаў
І рукапіс кнігі табе не падняць.
Шчаслівым ты быў, але зараз бяда -
Няма каму слоўнік твой тут выдаваць.
Сляпы і галодны ты хутка памрэш,
Але не шкадуеш, што траціў гады
На родную мову, якая найперш
Цябе ўсхвалявала, як пчолаў сады
У квецені мёднай, якую не бачыш,
Ды чуеш, як пахне яна, як жыве.
Ты молішся мове і Богу, не плачаш,
І ўпаўшы ў траву, ты плывеш па траве…
*12.04.2020 г.*

*(Працяг у наступным нумары.)*





# Тадэвуш Урублеўскі

## Нарыс жыцця

*Ад перакладчыка: Урублеўскі Тадэвуш Станіслаў (1858-1925) - адвакат, заснавальнік бібліятэкі ў Вільні, якая зараз носіць яго імя. У 1886 г. закончыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, з 1881-1883 гг. - у сібірскай высылцы. У 1900 г. заснаваў Таварыства шубраўцаў, якое працягвала традыцыі шубраўцаў пачатку XIX ст. Сабраў выдатны кнігазбор, у 1912 г. заснаваў і легалізаваў таварыства "Бібліятэка імя Яўстахія і Эміліі Урублеўскіх" (бацькоў), якому перадаў кнігазбор, і кіраваў бібліятэкай да сваёй смерці. У 1926 г. бібліятэка стала дзяржаўнай з назвай Дзяржаўная бібліятэка імя Урублеўскіх і размясцілася ў выкупленым у 1925 г. палацы Тышкевічаў у Вільні.*

Нягледзячы на тое, што большую частку свайго жыцця с. п. Тадэвуш Урублеўскі пражыў у Вільні, ён не быў правінцыяльным дзеячам, вядомасць і слава якога не выходзіць за межы роднага горада. Яго добра ведалі на ўсім абшары літоўска-беларускай зямлі, а таксама ў Польшчы і Расіі, не быў ён чужы і ў Заходняй Еўропе. Урублеўскі неаднаразова меў магчымасць выйсці на больш шырокія прасторы, заняць якое-небудзь выбітнае становішча, стаць уплывовай фігурай, але пры гэтым пакінуць Вільню, горад, які па шэрагу прычын не стаў асяродкам самастойнай думкі і дзеяння. Аднак маючы прапановы з розных бакоў, Урублеўскі заўсёды ад іх адмаўляўся, бо не жадаў пакінуць родны горад, дзе знаходзіліся яго кнігі, яго дом, у якім ён нарадзіўся і хацеў жыць да скону.

Гэты яго знешні кансерватызм, гэтая яго прывязанасць да помнікаў былога, да традыцыі, да шматлікіх родных вобразаў, да смелага палёту думак з пагружэннем у былое былі яго галоўнай рысай, незразумелай для многіх, але - як слушна заўважыў аўтар успамінаў пра яго ў газеце "Слова" - было гэта яго спецыфічнай віленскай экзотыкай.

С. п. Тадэвуш - вільнянін да мозга касцей, але ён заўсёды адчуваў сябе чужым у атмасферы Вільні, у мяшчанска-шляхецкім асяроддзі, сцісла спаяным між сабой эндэцкапабожным кругаглядам.

Народжаны 8 лістапада 1858 г. у сям'і вядомага ў Вільні лекарагамеапата Яўстаха Урублеўскага і маці Эміліі з Бянёўскіх, малады Тадэвуш атрымаў старанная хатняе выхаванне, і, адораны шматлікімі здольнасцямі, закончыў віленскую гімназію з залатым медалём, потым паступіў у Медыка-хірургічную акадэмію ў Пецярбургу. Праз два гады, за ўдзел у "польскай гміне", канспіратыўнай арганізацыі з сацыялістычнымі тэндэнцыямі, быў сасланы ў Сібір. Між іншым, да гэтай арганізацыі належалі яго пазнейшыя антаганісты Юзаф Гласко (сучасны сенатар з "Клуба Працы"), Баляслаў Віславух і іншыя вядомыя дзеячы. Пасля вяртання з Сібіры ў 1880 г. ён паступіў у Пецярбургскі ўніверсітэт на юрыдычны факультэт. Вучобу закончыў з высокімі адзнакамі і пачаў адвакацкую практыку як памочнік Уладзіміра Спасовіча. Пад кіраўніцтвам гэтага знакамітага адваката Урублеўскі паглыбіў набытыя веды, раскрыў свой прыроджаны талент красамоўства і хутка стаў вядомым судовым абаронцам.

Пасля смерці бацькоў, каля 1890 г., ён вярнуўся ў Вільню і прыняў у спадкі бацькоўскі дом разам з першапачатковым кнігазборам - колькасць кніг з гэтага часу стане павялічвацца, і кнігі стануць яго адзінай жарсцю і мэтай жыцця.

Самотны ўсё жыццё, Урублеўскі, цалкам аддаваўся збору кніг але не быў ні мізантропам ні адлюдкам. Падтрымліваў сяброўскія і прафесійныя адносіны з вялікім колам людзей, жыва цікавіўся грамадскімі справамі і добра прычыніўся да ажыўлення прыгнечанага ў той час віленскага грамадства. У тыя часы, па ініцыятыве Урублеўскага, паўстала таварыства "Шубраўцаў", зразумела, што акрамя назвы гэта таварыства не мела нічога агульнага з ранейшымі шубраўцамі. У тагачасных умовах таварыства не магло займацца грамадскай дзейнасцю і таму мела больш сціплыя мэты. Гэта было кола польскай інтэлігенцыі, якое збіралася па суботах у гасцінным доме Урублеўскага, у таямнічай для больш шырокага кола "Гаспадзе пад Ракарам" і праводзіла час у свабодных размовах з абменам думкамі, прычым гаспадар заўсёды меў шмат новай інфармацыі для абмеркавання і тэм для здумлення.



TADEUSZ-STANISŁAW WRÓBLEWSKI
† 3 lipca 1925 r.

Агульнае ажыўленне на гэтых сходах запанавала калі прыйшоў 1905-ы год, падуў вецер перамен які абяцаў напярэдадні рэвалюцыйную буру. У той час Урублеўскі трыумфальна, у арэоле славы абаронцы польскіх інтарэсаў, вярнуўся са з'езда земскіх дзеячаў у Маскве. Усе лічылі, што толькі дзякуючы яго прамовам сярод земскіх дзеячаў, якія зрабілі вялікае ўражанне на з'ездзе, прабіў сабе дарогу пастулат пра аўтаноміо Польскага каралеўства. Хутка гэтыя земскія дзеячы ўтварылі шматлікую і ўплывовую канстытуцыйна-дэмакратычную партыю.

З гэтага з'езда пачаліся блізкія стасункі Урублеўскага з кадэтамі. Але праз нейкі час гэтыя стасункі саслабелі, а потым і цалкам спыніліся - выбітныя лідары гэтай партыі: Мілюкоў, Набокаў, Маклакоў і іншыя не пагаджаліся з федэралістам Урублеўскім.

Аднак, калі Польскі камітэт выставіў кандыдатуру Урублеўскага ў 1-ю Думу, ён быў яшчэ прыхільнікам праграмы кадэтаў. Гэта ён выразна зазначыў у сваім адкрытым лісце "да выбарцаў горада Вільні - ліцвінаў і палякаў", дзе між іншым падкрэсліў, што "лічыць сябе грамадзянінам Літвы і ў вырашэнні палітычных і грамадскіх праблем бачыць агульны інтарэс усіх жыхароў нашага краю …".

Потым не раз казалі тое, што перакананні Урублеўскага мяняліся. Не ведаю, на што абапіралася гэтае цвярджэнне. На працягу апошніх дваццаці гадоў, ці дакладней, у часы калі палітычнае жыццё развівалася больш-менш адкрыта, ён заставаўся верным сваім поглядам. І падчас выбараў у 1-ю Думу, і падчас выбараў у 3-ю Думу, і ў часы вайны, і пасля вайны, Урублеўскі заўсёды выступаў як працаўнік нацыянальнай выключнасці, як гарачы прыхільнік супольнага жыцця ў згодзе ўсіх народаў краю, як выразны "краёвец", які разумее тэрытарыяльныя асаблівасці Літвы і Беларусі і права гэтых земляў на самастойнае жыццё і развіццё. Відочна, што ў сувязі са зменамі ў палітычнай сітуацыі і праўна-дзяржаўнымі пераўтварэннямі, погляды Урублеўскага на агульнае пагадненне, хаця б фармальнае, мусілі эвалюцыянаваць, але змест яго поглядаў заставаўся нязменным ад іх першага дэкларавання ў 1905 г. і да апошніх хвілін жыцця.

Здаецца, што непаразуменне палягала ў тым, што агульнае ўспрыманне пра асобу Урублеўскага ўтваралася не на падставе яго слоў - таго што ён сам казаў, а на падставе таго, што пра яго казалі іншыя. Тым больш, што толькі падчас выбараў у 1-ю Думу ён рабіў недвухсэнсоўныя заявы і выступаў як прыхільнік дэмакратычнай праграмы звяртаючыся да ўсіх выбаршчыкаў, нягледзячы на іх нацыянальнасць. Гэта пры тым, што Выбарны камітэт, які падтрымліваў яго кандыдатуру, рабіў выразныя нацыяналістычныя заявы, кажучы, што "толькі паляк можа бараніць інтарэсы нашага краю і горада". Калі б польская думка адразу была больш крытычнай і ўзважанай, дык ад самага пачатку яна павінна была б прыняць погляды Урублеўскага - не ён змяніў свае погляды, а польская супольнасць выступала кожны раз па-рознаму, у залежнасці да настрояў і акалічнасцяў.

Здаецца, што гэтая розніца паміж кандыдатам і Камітэтам у значнай меры прычынілася да яго паразы на выбарах. Перамог яўрэйскі кандыдат, равін Левін, за якога аддалі галасы ўсе яўрэі, незалежна ад сваіх перакананняў, разам з прыхільнікамі праграмы кадэтаў.

З-за такога выніку, пазбягаючы непрыемных кампрамісаў і не жадаючы барацьбы паміж нацыянальнасцямі, у 2-ю Думу Урублеўскі не выстаўляўся, а займаўся адвакацкай практыкай на палітычных працэсах. Першым з іх быў працэс лейтэнанта Шмідта ў Севастопалі, гэты працэс зрабіў яго імя вядомым усёй Расіі. Хутка ён стаў адным з самых вядомых адвакатаў, і ў самых розных рэвалюцыйных колах прозвішча Урублеўскі займела папулярнасць, якой маглі б пазайздросціць правадыры і кіраўнікі рэвалюцыйнага руху. Але гэта не перашкаджала яму адначасова служыць на дзяржаўнай службе юрыдычным радцам Палескай чыгункі, дзе яго паважалі да такой ступені, што скрозь пальцы глядзелі на палітычную нядобранадзейнасць.

Паслухаўшы сяброў, Урублеўскі згадзіўся выставіць сваю кандыдатуру на выбарах у 3-ю Думу, якія пасля змены закона аб выбарах і з'ўлення нацыянальных курый, мелі адбыцца не пад лозунгам нацыянальнай салідарнасці, да якога Урублеўскі заўсёды меў антыпатыю, а на грунце барацьбы праграм і ідэй. Урублеўскі, як кандыдат Дэмакратычнага камітэта, з націскам падкрэсліваў сваю краёвасць у супрацьстаянні з іншым кандыдатам, ксяндзом Мацяевічам, якога падтрымлівала большасць віленскага кліру і які знаходзіўся пад уздзеяннем эндэцкай ідэалогіі.

Не толькі вынікі выбараў (ксёндз Мацяевіч атрымаў 5700 галасоў, а Урублеўскі - 1400) канчаткова адвярнулі Урублеўскага ад палітычнай дзейнасці па прадстаўленні інтарэсаў польскай супольнасці, але розныя падзеі, ашуканствы і інсінуацыі, які дапускалі ў яго бок палітычныя праціўнікі. Памыі, якія пад уздзеяннем сваіх нізкіх інстынктаў эндэцыя выліла ў той час на галаву заслужанага дзеяча і вядомага абаронцы прыгнечанай польскасці, маглі б забіць нават чалавека, які меў бронзавую душу старажытнага рымляніна. А Урублеўскі меў незвычайна ўразлівую і чулую да ўсялякага чужога дотыку натуру. Ён глыбока перажываў другую паразу на выбарах і стаўленне да яго віленскага натоўпу. Адсюль пачынаюцца разыходжанні паміж ім і польскай Вільняй, якія праз час прывялі да яго поўнага адасаблення.

Прыйшла вайна, нямецкая акупацыя, бальшавіцкі наезд, Генеральны камісарыят усходніх земляў, літоўская ўлада, аперэтачная Сярэдняя Літва і нарэшце інкарпарацыя Віленшчыны ў польскую дзяржаву. У гэтыя часы зменаў і пераваротаў Урублеўскі заставаўся верным сябе. Не адчуваючы жадання займацца канспіратыўнай дзейнасцю, не салідарызуючыся з польскімі плынямі, сярод якіх нават віленскія дэмакраты перасталі прызнаваць асобнасць Літвы і Беларусі, не маючы нічога агульнага з кансерватарамі і згоднікамі, якія ўжо шмат гадоў таму паставілі крыж на магіле Польшчы, ён не верыў у трываласць і цэльнасць усіх арыентацый і наогул не баяўся палітыкай. Урублеўскі моцна і нязменна стаяў на пазіцыях краёўца і казаў пра патрэбу супольнай працы ўсіх нацыянальнасцяў краю. Ён маніфеставаў - часам, можа, занадта яскрава - сваю лаяльнасць усім уладам і ўрадам, якія хутка змянялі адзін аднаго.

Як вядомы юрыст, ён не адмаўляў у дапамозе і парадзе ўсім уладам. Лічыў, што праз свой уплыў, ён можна абараніць сугрмадзян ад розных крыўдаў і праследаў, адвярнуць бяду і накіраваць улады на шлях законнасці і справядлівасці. Але роўна не выказваў энтузіязму да ўсіх уладаў. Як мясцовая, бліжэй яму была літоўская ўлада, але Урублеўскі добра разумеў, што толькі тая ўлада будзе моцнай і ўгрунтаванай, якая паўстанне па волі ўсяго народа і без ніякага знешняга ўціску. Быў паслядоўным і умеў захаваць спакой і крытычны розум, калі большасць яго старых сяброў пайшла па лініі найменшага супраціву ці кіравалася сляпой нянавісцю. Ад яго адвярнуліся амаль што ўсе знаёмыя і першымі пачалі яго абвінавачваць тыя, якіх заўсёды раздражняла ягоная разумовая вышэйшасць, незалежнасць і паслядоўнасць.

Урублеўскі застаўся са жменькай верных сяброў, але новыя сябры пачалі знаходзіцца ў колах, якія раней не былі яму блізкімі, бо ён быў звязаны з польскім асяроддзем з самага свайго нараджэння. З новымі сябрамі яго лучыла агульнае разуменне нядолі і цяга да свабоды. Да таго часу, пакуль польскасць уціскалася і праследавалася, пакуль яна змагалася за свае вызваленне, да гэтага часу ён быў яе гарачым прыхільнікам, інтарэсы і патрэбы польскасці былі для яго галоўнымі. А да трыумфуючай польскасці, польскасці, якая прыгнятае іншых, ён адчуў непрыязь. З гэтага моманту Урублеўскі пачаў бліжэй браць да сэрца інтарэсы так званых нацыянальных меншасцяў. Ён заўсёды быў супраць тых, хто кіруе і пануе.

Апошнія гады жыцця, Урублеўскі пераважна аддаў працы над упарадкаваннем свайго кнігазбору. Зрэдку адрываўся ад гэтага, каб выступіць адвакатам у судзе, а таксама, калі яго наведвалі сябры, знаёмыя ці нават чужыя людзі - прыезджыя ці замежнікі, якія прагнулі ведаць яго меркаванне пра апошнія падзеі.

Клопат пра сваю каштоўную бібліятэку, якой ён аддаў столькі сіл і сродкаў, не даваў спакою. Прагнуў, каб яго кнігазбор быў непарыўна звязаны з Вільняй і, не маючы ніякага выйсця, пачаў перамовы з Управай дзяржаўных бібліятэк аб перадачы свайго збору ў якасці дэпазіту, але з умовай, што ён ні ў якім выпадку не можа быць вывезены з Вільні.

Смерць не дазволіла ўбачыць сваімі вачыма справу свайго жыцця ў тым выглядзе, у якім ён хацеў яе ўбачыць. Смерць стала неспадзеўкай як для яго самога, гэтак і для яго сяброў. Арганізм не вытрываў напружанай працы, якой ён аддаваўся ўсё жыццё. Ніколі не мог Урублеўскі даць сябе адпачынку хоць на хвіліну. А на ўсё іншае ў яго заўсёды быў час - на сваю самаадукацыю, на навуковыя заняткі, на напісанне артыкулаў, якія друкаваліся пад псеўданімам Т. Вароніч у "Пшэглёндзе Віленскім", і на брашуры, якія выдаваў пад сваім імем ці псеўданімам Ёдварніса (Juodvarnis), на даклады, якія чытаў у Літоўскім навуковым таварыстве і ў Звязе польскіх бібліятэкараў, на старанную каталагізацыю сваіх збораў, на чытанне кніг і лістоў, на размовы і на розныя канферэнцыі, на міравыя суды, на якія яго часта запрашалі як арбітра. Не меў толькі часу на адпачынак і лячэнне, якое вымагаў стан яго здароўя.

Жыў як анахарэт, жывіўся тым, што меў. З часоў нямецкай акупацыі, быў пазбаўлены ўсіх сродкаў і практычна галадаў. Атрымаўшы ў часы Генеральнага камісарыяту ўсходніх земляў становішча натарыюса, пачаў зарабляць але не меў часу траціць грошы, бо працаваў па 18 гадзін у суткі, а потым грошы, якія ў яго назбіраліся, страціў ўсялякі кошт …

Усё гэта разам падарвала жалезны арганізм с. п. Тадэвуша. Яго чуйнае сэрца не вытрымала ўсіх расчараванняў і звадак, якімі яго так шчодра абдорвалі людзі і, саслабеўшы, перастала біцца …

Вільня і ўвесь край страцілі аднаго з самым годных сваіх сыноў.

*Л. А. [Людвіг Абрамовіч]. Tadeusz Wroblewski // Preglad Wilenski. 1925, № 12. S. 2-5.*

***Пераклад Леаніда Лаўрэша.***





# У барацьбе са злом мастацтва на баку праўды і дабра

У Палацы Мастацтваў з 3 па 17 верасня дэманстравалася вялікая юбілейная выстава Аляксея Марачкіна "Армагедон". Былы старшыня Рады суполкі "Пагоня" Беларускага саюза мастакоў, лаўрэат прэміі імя В. Быкава "За свабоду думкі" Алесь Мара стварае надзвычай актуальныя палотны, якія хвалююць гледачоў і выклікаюць эмацыянальнае ўзрушэнне. У экспазіцыі былі прадстаўлены больш за 100 жывапісных і графічных прац выбітнага мастака і дзеяча нацыяльнага Адраджэння.

Сёлета ў сакавіку, калі майстру споўнілася 80-гадоў, Аляксей Антонавіч знаходзіўся на каранціне ў Чарнагорыі. І толькі цяпер яго сябры, знаёмыя і ўсе, хто цікавіцца сучасным жывапісам, прыйшлі да выставу, каб убачыць новыя творы і паслухаць аповед пра іх з вуснаў аўтара.

Майстар прадставіў гледачам палотны розных гадоў, на якіх адлюстравана гісторыя нашай краіны, пошукі вызначэння нацыянальнай ідэнтычнасці, нялёгкія шляхі змагання за волю. На выставе дэманструюцца літаратурныя партрэты 80-тых гадоў, такія, як "Алаіза Пашкевіч", "Максім і Веранiка" (1981), партрэты Алега Бембеля ( Зніча), Міколы Ермаловіча, Зянона Пазняка, ахвяраў Чарнобыля", "Палеская мадонна" ( 1991) і іншыя.

Жывапісец звяртаўся да вобразаў дарагіх яму асобаў - жонкі Ірыны, аднакурсніка, мастака з трагічным лёсам Анатоля Сухана і іншых. Аўтапартрэт на чырвоным фоне перадае стан натхнення мастака, выражае яго імклівы рух у будучыню. Па-ранейшаму малады душой аўтар напісаў карціну "Юнацтва".

Мастацтвазнавец Пётр Васілеўскі даў высокую адзнаку творчасці Алеся Мары і адзначыў, што па працах, прадстаўленых на выставе, можна не толькі прасачыць творчую эвалюцыю аўтара, але і вывучаць гісторыю краіны і фарміраванне беларускай тоеснасці за апошнія 25 гадоў. Сябар мастака з 1989 года Мечыслаў Бурак выступіў на сустрэчы з прамовай, якую падрыхтаваў яшчэ да яго дня народзінаў 30 сакавіка:

- Аляксей Марачкін - прызнаная ў грамадстве асоба жыццёвай сілы волатаўскага кшталту, - адзначыў Мечыслаў Бурак.- Ён валодае талентам мастакоўскага духоўнага мыслення, яго творчасць натхняецца цывілізацыйнай ідэяй каштоўнасці беларускай нацыі. Аляксей Марачкін належыць да тыпу людзей глыбокай прыроднай маральнасці, тых, у каго душа, розум і сэрца жывуць у згодзе. Яго беларускі патрыятызм дух натхняе! Ён вызначае гістарычную перспектыву развіцця беларускай нацыі.

У Аляксея Марачкіна адважны характар. Божы дар ён скіраваў на служэнне Айчыне. Чалавеку прыстойнаму нічога не можа быць даражэй за вольнасць. Такія асобы дазваляюць нам духоўна ўзрастаць у нацыянальным усведамленні. Дзякуй, дарагі мастак, за высокую культуру ўзаемадачыненняў, за жыццёвы аптымізм, які сілкуе наша сяброўства!" Іншыя сябры адзначалі, што іх па жыцці прываблівае добразычлівая аўра Аляксея Антонавіча.

Найбольшую цікавасць выклікалі ў гледачоў працы, звязаныя з падзеямі апошніх 10 гадоў. На карцінах лунаюць бел-чырвона-белыя сцягі і стужкі, дзейнічаюць адважныя і рашучыя героі. Гэта "Плошча Каліноўскага" з незабыўнымі светлымі юнакамі (2007), карціна "Сцяна"( 2001) , сведчанне пакутаў за кратамі, "Сённяшнія Курапаты" (2019) з выявай Паўла Севярынца ў атачэнні яго сяброў на варце ў Курапатах, і адлюстраванне гістарычнага дня перапахавання парэшткаў Кастуся Каліноўскага "Вільня 22 лістапада 2019 года". Апошняе палатно - своеасаблівы дакумент эпохі, бо на ім захаваны выявы ўдзельнікаў вялікай падзеі. Сярод іх - сам мастак, яго сябры і паплечнікі Мікола Купава, Алесь Пушкін, Уладзімір Някляеў, даследчык спадчыны К. Каліноўскага гісторык Сяргей Абламейка, а таксама лідар суполкі беларускіх габрэяў у горадзе Ашдод (Ізраіль) Барыс Давід Балтэ.



*Аляксей Марачкін і карціна "Вільня 22 лістапада 2019 года"*

Працяглы час жывапісец працаваў над партрэтам Яна Паўла II. Пра гісторыю стварэння партрэта распавёў на выставе гісторык Максім Крывіцкі, які ў якасці валанцёра MDE наведваў Італію. Там ён даведаўся пра ліст пантыфіка, накіраваны падрэ Муцыё Вентрэла, у якім ён выказваў пра свой клопат пра Беларусь і жаданне наведаць нашу краіну:

- Я вельмі хацеў бы ступіць на зямлю, якую я люблю. Супольна будуйце ваш сённяшні дзень і вашу будучыню. Не згубіце Беларусь!





Малады гісторык нагадаў мастаку пра гэтыя факты. Аляксей Антонавіч вырашыў прысвяціць карціну святому айцу да 100-годдзя з яго дня нараджэння. На палатне ён спалучыў выявы пляца святога Пятра ў Рыме і краявіды Навагрудчыны, партрэт Яна Паўла II і беларускія абразы: Маці Божую Вастрабрамскую і Маці Божую Курапацкую. Аўтарам апошняга абраза з'яўляецца сам Аляксей Марачкін.

Значнае месца ў творчасці Аляксея Марачкіна займаюць вобразы гістарычных асобаў. Ім прысвечаны цыкл графічных прац "Жыгімонт Стары" (2009), "Януш Радзівіл" (2010), " Васіль Цяпінскі", "Казімір Семяновіч", "Адам Міцкевіч" (2011). Трывогай прасякнуты хвалюючыя працы, прысвечаныя экалагічнай тэматыцы "Планета Палын" ( 1987 г), "Маці Божая

Найбольш актуальнае палатно "Армагедон" (2020) адлюстроўвае абвостраную драматычную барацьбу дабра і зла, якая разгарнулася на нашых вачах і доўжыцца па сёняшні дзень. Ланцугу АМАП-а супрацьстаяць не толькі людскія згуртаванні, але і нябесны вершнік на калі. Сродкамі мастацкага гратэску аўтар прыносіць прысуд сілам цемры.

Наведвальнікі выставы адзначылі вялікі ўнёсак творцы-патрыёта ў айчынную гістарычна-культурную спадчыну і пацікавіліся: ці існуе персанальны музей мастака? Пад Смалявічамі ў вёсцы Забалацце на сядзібе Таццяны Працькі сабраны працы Аляксея Марачкіна з сацыяльным зместам, і яшчэ дзесяткі твораў знаходзяцца ў прыватных зборах.

У канцы сустрэчы Аляксей Антонавіч пазнаёміў з малюнкамі розных перыядаў і падараваў некаторыя з іх прыхільнікам яго творчасці.

*Эла Дзвінская.*
*Фота аўтара.*

**Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі* № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
*Адрас рэдакцыі:* 231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Людвіка Таўгень, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.

http://nslowa.by/ http://naszaslowa.by/
http://pawet.net/ http://kamunikat.org/
http://tbm-mova.by/ http://belkiosk.by/

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 21.09.2020 г. у 17.00. Замова № 1863.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1200 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 2,65 руб., 3 мес.- 7,95 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.